№№93–94
(3632–3633)
15 чэрвеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

## Больш за два мільярды аддаў на падаткі

У Беларусі найбольшая сума задэклараванага фізічнай асобай гадавога даходу паводле вынікаў 2011 года склала 22,4 мільярда рублёў.

Пра гэта паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах **Міхаіл Расолька**. Паводле яго слоў, размова ідзе пра даходы, атрыманыя фізічнай асобай у выглядзе дывідэндаў ад замежнай арганізацыі. Пры гэтым выплачаная сума падаходнага падатку склала 2,2 мільярда рублёў.

ПРАГНОЗ

# Беражыце мужчын!

## *Спецыялісты б'юць трывогу: працягласць жыцця беларускіх юнакоў, якім зараз 15 гадоў, можа скласці ўсяго толькі 50,2 года.*



Ва ўсім свеце жанчыны жывуць даўжэй за мужчын у сярэднім на 6–8 гадоў. У Беларусі гэты разрыў значна большы. І ён будзе захоўвацца. Ёсць прагноз: сярэдняя працягласць жыцця тых асоб мужчынскага полу, якія нарадзіліся ў 2011 годзе, будзе 65 гадоў, а іх равесніцы пражывуць на 11 гадоў болей.

Але самы трывожны прагноз такі: юнакі, якім сёння 15 гадоў, могуць пражыць у сярэднім 50,2 года. Гэта вельмі нізкі паказчык. У развітых краінах ён можа скласці 60–63 гады.

*— Розніца ў працягласці жыцця абумоўлена высокай смяротнасцю мужчын працаздольнага ўзросту*, — каменціруе сітуацыю **Таццяна Гаплічнік** — каардынатар праграм Фонду ААН у галіне народанасельніцтва ў Беларусі. *— У асобных узроставых групах працаздольнага насельніцтва ўзровень смяротнасці сярод мужчын у 4 разы вышэй, чым сярод жанчын. Таму працягласць жыцця ў 65 гадоў не азначае, што мужчыны жывуць на пенсіі ўсяго пяць гадоў. Наадварот, калі мужчына дасягнуў пенсіённага ўзросту, то ў яго высокія шанцы пражыць доўгае жыццё.*

Сапраўды, згодна са статыстыкай, амаль кожны чацвёрты памерлы мужчына ў Беларусі знаходзіўся ва ўзросце да 40 гадоў. 40% памерлых мужчын не было і 50 (!).

Як і ва ўсім свеце, галоўная прычына смяротнасці ў Беларусі — хваробы сістэмы кровазвароту, новаўтварэнні і няшчасныя выпадкі. Але калі ў развітых краінах дзякуючы поспехам медыцыны жыхары паміраюць у больш старэйшым узросце, то ў нас, на жаль, усё часцей у працаздольным.

Спецыялісты звяртаюць увагу яшчэ на адзін момант: беларускія мужчыны ў 3,6 раза часцей паміраюць ад няшчасных выпадкаў, атручванняў і траўм, інфекцыйных хвароб, чым жанчыны. І амаль у 3 разы часцей — ад псіхічных расстройстваў і хвароб органаў дыхання.

Псіхолаг **Уладзімір Каляда** так тлумачыць гэтую тэндэнцыю: *"Мужчына мэтанакіравана ідзе на стварэнне альбо на разбурэнне — але не на стабілізацыю, як гэта робіць жанчына. І калі ў мужчыны не атрымліваецца ствараць, калі ён не можа рэалізаваць сябе ў грамадстве, то выбірае разбуральны шлях. Адсюль — шкодныя звычкі і рызыкоўныя паводзіны, псіхічныя засмучэнні і высокі ўзровень суіцыдаў ".*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

АКЦЫЯ

# Не пашкадуйце 19.000 рублёў!

**Мы не раз пераконваліся: асноўная частка чытачоў "Народнай Волі" — сталыя, даўнішнія яе сябры. Вас, шаноўныя, тысячы, але, шчыра кажучы, хацелася б яшчэ болей пашырыць кола прыхільнікаў "Народнай Волі".**

**Як? З Вашай дапамогай, добрыя людзі. І нагода спрыяльная — ідзе падпіска на II паўгоддзе 2012 года.**

**У Вас ёсць сваякі, якія ніколі не трымалі ў руках "Народную Волю".**

**У Вас ёсць сябры, якія не прызвычаіліся чытаць прагрэсіўныя газеты.**

**У Вас ёсць саслужыўцы, якім начальства навязвае выданні, што друкуюць спрэс хвалебныя оды ўладам, і якія не ведаюць пра незалежную прэсу, для якой галоўнае — не халуйстваваць перад вярхамі, а пісаць ПРАЎДУ, бараніць правы простага чалавека.**

**Такой газетай якраз і з'яўляецца "Народная Воля".**

**Дык не пашкадуйце, даражэнькія, 19.000 рублёў і аформіце хаця б месячную падпіску таму ж сваяку, які ніколі не трымаў у руках "Народную Волю".**

**Альбо каму-небудзь з сяброў, саслужыўцаў, якія, магчыма, таксама не знаёмы з нашай газетай.**

**Не сумняваемся, пасля месячнага чытання "Народнай Волі" ім самім захочацца пайсці на пошту альбо ў спецыялізаваны пунк "Белсаюздруку" і аформіць падпіску на наступныя месяцы.**

**У ліпені "Народнай Волі" споўніцца 17 гадоў! І мы, журналісты, увесь рэдакцыйны калектыў рады будзем, калі чытацкая сямейка папоўніцца новымі людзьмі.**

**Нагадваем: падпіска на "Народную Волю" на II паўгоддзе працягнецца да 27 чэрвеня.**

*Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі.*

ПАД ГРАДУСАМ

## *Спачатку дажджы, а потым спёка*

***16 чэрвеня*** пераменная воблачнасць. Пераважна па ўсходняй палове кароткачасовыя дажджы, днём у асобных раёнах навальніцы. Вецер паўночна-заходні 5–10 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ноччу +6–13°С, па ўсходзе да +15°С, днём +18–25°С.

***17 чэрвеня*** пераменная воблачнасць. Ноччу ў паўднёва-ўсходніх раёнах, днём па паўночна-заходняй палове кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Вецер заходні, паўднёва-заходні 4–9 м/с, пры навальніцах парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ноччу +8–15°С, днём ад +23°С па поўначы да +30°С па поўдні краіны.

На пачатку наступнага тыдня Беларусь будзе знаходзіцца пад уплывам цёплага антыцыклону. Тэмпературы паветра будуць даволі высокімі, прычым пацяплее не толькі ў дзённы, але і ў начны час.

Пачынаючы з **панядзелка** будзе пераважаць тэмпература ноччу +11–18°С, днём — +23–28°С. У Брэсцкай і Гомельскай абласцях паветра прагрэецца да +30°С, а ў асобныя дні — да +32°С. У **сераду** чакаецца вельмі цёплы дзень: тэмпература паветра ў дзённы час на большай частцы тэрыторыі краіны чакаецца +25–30°С, у Брэсцкай і Гомельскай абласцях — да +33°С.

ПО ПОВОДУ

# Аты-баты, без зарплаты

## *Запрет на полеты военной авиации не распространится на военный парад в честь Дня Независимости. 3 июля военные самолеты поднимутся в небо над столицей.*

Об этом сообщило Министерство обороны.

Напомним, что запрет на полеты военной авиации введен после крушения Су-25, произошедшего 12 июня в Гродненской области, в которой погиб опытный пилот **Николай Гриднев**. Согласно приказу командующего Военно-воздушными силами, военная техника не может подниматься в воздух до окончания расследования этого трагического происшествия. Тем не менее в День Независимости самолеты взлетят.



Военные специалисты столь страстного желания главы государства видеть над жилыми районами столицы военные самолеты объяснить не могут. Ранее масштабные военные парады проходили только по юбилейным датам — в 2009 году в ознаменование 65-летия освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков, в 2010-м — 65-летия Победы в Великой Отечественной войне. Однако уже в 2011 году традиция была нарушена, и масштабный парад с участием авиации состоялся без всякой причины, несмотря на то что страна оказалась в глубоком финансовом кризисе и столкнулась с необходимостью жесткой экономии государственных средств. В нынешнем году ситуация повторяется, несмотря на то что при этом откровенно игнорируются соображения безопасности.

Причем объемы расходов на проведение таких парадов государство не обнародует. Правда, в прошлом году пресс-секретарь главного управления идеологической работы Министерства обороны Беларуси полковник **Владимир Макаров** в своей статье, опубликованной в "Белорусской военной газете", написал: *"Мы специально посчитали, как можно было бы использовать средства, выделяемые в рамках военного бюджета на парад войск, и получили явно неутешительные для оппозиционеров результаты. Оказывается, предлагаемая ими экономия средств достаточна, чтобы выдать не более чем по 10 граммов колбасы каждому жителю республики. Вот он — предел мечтаний оппозиционеров — заветная колбаса, которую злое государство отняло у свободных людей, пухнущих с голоду".*

Пояснить журналистам, какая колбаса бралась для расчета, Владимир Макаров не смог. Поэтому проверить эту информацию не представляется возможным.

### *Для сведения*

Парады проводились еще в армиях Древнего Египта, Персии, Рима и других государств. Одной из форм парадов в армиях Древнего Рима являлись римские триумфы — торжественное вступление в столицу победоносного полководца и его войска. Большое распространение парады получили в XVIII веке в Западной Европе (Пруссии и других странах), где они являлись одним из основных видов муштры.

В русской армии парады получили широкое распространение с конца XVIII века. В Петербурге ежегодно проводились большие парады: зимний — на Дворцовой площади и весенний — на Марсовом поле.

В СССР военные парады проводились дважды в год (за исключением периода Великой Отечественной войны) — 1 мая (праздник трудящихся) и 7 ноября (день Великой Октябрьской Социалистической Революции). Последний парад на 1 мая прошел в СССР в 1968 году. После этого майские военные парады назначались на День Победы 9 мая. За несколько лет до этого — в 1965 году — 9 мая объявили праздничным днем (до прихода к власти Л.И.Брежнева день 9 Мая вообще широко не отмечался). Причем парады в честь Победы назначались только в юбилейные годы.

Военные парады в СССР иногда сопровождались и трагедиями. 1 мая 1952 года после военно-воздушного парада, которым командовал Василий Сталин, проходящего при низкой облачности, при посадке разбились два новейших реактивных фронтовых бомбардировщика Ил-28.

Участие военной техники и авиации в военных парадах в России было возобновлено только в 2008 году и вызывает много критики в СМИ.

**Игорь МОРОЗОВ.**

**В ТЕМУ**

## *Любят ли белорусы военные парады?*

*В последнее время на военные парады в Минске собиралось довольно много народа. Почему?*

*"Приходят, потому что настойчиво приглашают*, — объясняет политолог, помощник председателя Движения "За Свободу" **Алесь Логвинец**. — *Я думаю, что есть разнарядки по предприятиям, и таким образом люди мобилизуются на участие в официальных праздниках".*

Не секрет, что некоторые белорусы считают 3 июля — День Независимости Беларуси — лишь дополнительным выходным днем.

"*Мне кажется, что намного серьезнее воспринимается праздник, который не признается сегодняшними властями, — это 25 марта,* — высказывает свое мнение Логвинец. — *А 3 июля для многих — день, когда можно не идти на работу. Я никогда не слышал о том, чтобы 3 июля праздновали в семьях, вот 25 марта — да, знаю, отмечают за семейным столом и среди друзей ".*

***

С 1991 года День независимости отмечался 27 июля, в день принятия Декларации о суверенитете Беларуси. Решение о праздновании Дня независимости 3 июля было принято в ходе республиканского референдума в 1996 году.

**Вера ВИР.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## *«Апазіцыйны збой»*

*Валянцін Стэфановіч атрымаў ліст ад начальніка Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Беларусі* ***Аляксея Бегуна****. Чыноўнік сцвярджае, што праваабаронцу ўключылі ў базу асоб, якім часова забаронены выезд за мяжу, з-за тэхнічнага збою.*

*"...зыходзячы з шэрагу зваротаў грамадзян, варта адзначыць, што ў перыяд з 02.24.2012 па 03.10.2012 меліся тэхнічныя збоі ў перадачы інфармацыі ў банк даных, магчымым вынікам якіх з'явілася памылковае ўключэнне звестак аб Вас у банк даных*, — гаворыцца ў афіцыйнай паперы. — *На цяперашні час у МУС праводзіцца работа па праверцы сапраўднасці ўсіх звестак, якія паступілі ў банк даных з упаўнаважаных дзяржаўных органаў за названы перыяд часу. Па заканчэнні працы будуць прыняты меры па выключэнні памылковых звестак з банка даных згодна з пунктам 18 палажэння "Аб банку даных аб грамадзянах Рэспублікі Беларусь, права на выезд якіх з Рэспублікі Беларусь часова абмежавана".*

Каментуючы гэты адказ, **Валянцін Стэфановіч** заявіў: *"Я ведаю, як завуць гэты "тэхнічны збой", які здарыўся настолькі выбарча, што ў базу невыязных памылкова трапілі толькі апазіцыйныя палітыкі, незалежныя журналісты, праваабаронцы і адвакаты. Застаецца спадзявацца, што ў дэпартаменце знойдуць асоб, вінаватых у распаўсюдзе "шкоднага вірусу", і ўзорна іх пакараюць".*

Пры гэтым праваабаронца адзначыў, што Аляксей Бягун не паведамляе, у які тэрмін скончыцца праверка і калі яго выключаць са спісу невыязных.

ВІНШУЕМ!

# З усмешкай і «воўчым білетам»

## *Сяргею Калякіну — 60 гадоў*

*16 ліпеня старшыні Партыі левых "Справядлівы свет" Сяргею Калякіну споўніцца 60 гадоў. Ён карэнны мінчанін. "Савецкі чалавек з Савецкага раёна" — так казалі пра яго ў свой час. Напярэдадні асабістага свята юбіляр адказаў на пытанні "Народнай Волі".*



**— Вы па жыцці нарабілі шмат памылак?**

— Спадзяюся, што знаходжуся ў сярэдзіне свайго шляху. Можа, гэта гучыць банальна, але, калі б можна было пракруціць кола назад, то я б нічога не мяняў у сваім жыцці. Мне пашчасціла працаваць з вялікай колькасцю людзей. Яшчэ ў маладосці ў 1974 годзе я пачаў працаваць са студэнцкімі атрадамі. Потым арганізоўваў работу нашых студэнтаў на будоўлях Сібіры, Далёкага Усходу, Казахстана, Малдавіі. Уявіце сабе, што ў выязны атрад уваходзіла 20.000 чалавек. Я быў намеснікам камандзіра рэспубліканскага штаба пры ЦК камсамола. Але сам штаб быў самастойнай структурай на гаспадарчым разліку. Умоўна кажучы, мы вывозілі дзве дывізіі людзей па ўсім Саюзе і потым дзве дывізіі прывозілі назад на вучобу.

**— Студатрады тады былі моднымі...**

— Канешне. Бо ў некаторых можна было зарабіць па 3000–4000 савецкіх рублёў, на якія студэнт мог жыць цэлы год прыпяваючы. Некаторыя нават бацькам яшчэ дапамагалі. Мне спадабалася працаваць з людзьмі яшчэ тады. Лічу, што гэта самае цікавае з таго, што можа быць.

— **Арганізатарскія здольнасці ў вас ад прыроды?**

— Яны развіваліся падчас працэсу, як і ўсе здольнасці. Канешне, кожнаму чалавеку нешта лягчэй даецца, нешта цяжэй. Мне, напрыклад, заўсёды з цяжкасцю даваліся мовы. Значна прасцей было з матэматыкай, фізікай, нават хіміяй. З гуманітарнымі навукамі ўсё было значна складаней, але пачаў займацца — і стала атрымлівацца. Потым, у 28 гадоў, прыйшоў на партыйную работу.

— **Тады ўжо былі членам камуністычнай партыі?**

— Я ў партыю ўступіў у 1972 годзе, калі працаваў на заводзе "Інтэграл". Працаваў у самым перадавым цэху №20. Там выраблялі вялікія інтэгральныя схемы. Тады гэта быў самы пачатак вялікай электронікі. Памятаеце першыя гадзіннікі "Электроніка"? Яны былі на нашых мікрасхемах. Гэта было вельмі перадавое прадпрыемства з сучасным абсталяваннем.

— **Адтуль — у партыйны апарат?**

— Так. Але я не быў публічным палітыкам. Мне было вельмі цяжка выступаць перад людзьмі. І там я займаўся арганізацыйнай працай. Да Савецкага райкама партыі я ўжо меў досвед гаспадарчай працы. Працаваў намеснікам старшыні Савецкага райвыканкама. Была праца, з аднаго боку, цікавая, а з другога — няўдзячная, бо ўсё было звязана з камунальнай, а гэта тая галіна, якая заўсёды гарачая. Асабліва што тычылася размеркавання жылля. Зразумела, што, калі ў чарзе стаяць дзясяткі тысяч чалавек, заўсёды ёсць незадаволеныя тым, што ім не далі кватэру. Але не памятаю, каб нехта на мяне быў пакрыўджаны. Я размаўляў з людзьмі. Можна, канешне, суха адказаць, маўляў, усё законна і не дурыце галавы. Але лепш усё ж пагаварыць, патлумачыць, чаму той, хто стаіць у чарзе тры гады, атрымлівае кватэру раней за яго, які стаіць ужо 12 гадоў.

(Працяг на 3-й стар.)

СІТУАЦЫЯ

# Чаму пакватэрны ўлік цяпла не «грэе» спажыўцоў?

*У рэдакцыю патэлефанаваў жыхар Барысава Аляксандр Васільевіч Дражэнка:*

*"У нашым 56-кватэрным доме ўстаноўлены пакватэрныя прыборы ўліку цеплавой энергіі. Мы першымі ў Барысаве перайшлі на такі ўлік, бо спадзяваліся, што новая сістэма падахвоціць людзей больш эканомна ставіцца да спажывання цяпла. Думалася, у рэшце рэшт, што новаўвядзенне станоўча адаб'ецца і на сямейным бюджэце. Але што ў выніку?.. Ніякай эканоміі! А чаму? Асноўная прычына ў тым, што за абагрэў месцаў агульнага карыстання (пад'ездаў, лесвічных пляцовак) прыходзіцца плаціць у месяц роўна столькі, колькі і за абагрэў кватэры... Не верыце? Тады прыязджайце ды падзівіцеся на нашы "жыроўкі"..."*

*І карэспандэнт "Народнай Волі" выправіўся ў Барысаў.*



## Яшчэ той кавардак

Перад тым як наведаць кватэру Аляксандра Васільевіча (вул.Герцэна, д.3, кв.17), цікаўлюся ў спецыяліста Мінжылкамунгаса, чаму спажыўцам прыходзіцца аплачваць звыш таго, што паказвае індывідуальны прыбор уліку цеплавой энергіі, — за абагрэў месцаў агульнага карыстання і ўвогуле за розныя "працечкі" цеплатрас... Спецыяліст хоць і адмовілася назваць сябе ("не хачу непрыемнасцяў ад начальства"), але тое-сёе замовіла па сутнасці: *"Усе расходы цеплаэнергіі, пра якія вы згадваеце, спажыўцы заўсёды будуць пакрываць са сваёй кішэні, незалежна ад таго, ёсць індывідуальныя прыборы ўліку цеплавой энергіі ці іх няма. Такі парадак, бо за ўсё трэба плаціць. Але ведаць варта і іншае: усе гэтыя расходы цеплавой энергіі ніяк не могуць перавышаць 30 працэнтаў агульнага расходу цяпла, што ідзе на абагрэў жылога дома. Яны і павінны быць прапарцыянальна размеркаваны паміж спажыўцамі, уладальнікамі кватэр. Юрыдычным пацвярджэннем гэтага з'яўляецца* **п.40 Інструкцыі №13 ад 24 мая 2004 года Мінжылкамунгаса".**

Значыцца, плата за абагрэў месцаў агульнага карыстання не павінна перавышаць гэты паказчык-норму — 30 працэнтаў ад платы за абагрэў кватэры?..

*"Прыкладна так,* — пагаджаецца жанчына, — *але трэба мець на ўвазе, што методыкі разліку бываюць розныя. Тут усё залежыць ад кваліфікацыі спецыяліста, ад яго кампетэнцыі... У гэтай сферы яшчэ той кавардак..."*

## Ледзь не палова агульнай сумы

Чаму ўрэшце спажыўцы цеплавой энергіі не зацікаўлены ў прыборах па ўліку цяпла? Дзіўна, але ўстаноўка іх ініцыіруецца не "знізу", а "зверху", між тым як выгада для спажыўцоў (даказана сусветнай практыкай) відавочная...

"*Жылыя дамы ў Беларусі будуць аснашчаць прыборамі ўліку цеплавой энергіі зыходзячы з эканамічнай мэтазгоднасці*", — заявіла (яшчэ два гады таму) начальнік галоўнага ўпраўлення паліўна-энергетычнага комплексу хімічнай і фармацэўтычнай прамысловасці Міністэрства эканомікі Беларусі Тамара Астроўская. Паводле яе слоў, далёка не ўвесь жылы фонд прыстасаваны да ўстаноўкі прыбораў уліку. *"Калі ёсць спалучэнне двух гэтых аспектаў — эканамічная мэтазгоднасць і тэхнічная магчымасць,* — сказала яна, — *то прыборы ўліку цяпла ў шматкватэрных дамах павінны быць устаноўлены. І разлікі за такія паслугі, як забеспячэнне цеплавой энергіяй і водпуск гарачай вады, павінны праводзіцца выключна па паказаннях прыбораў уліку".* А яшчэ яна нагадала, што, пачынаючы з сярэдзіны 90-х гадоў, праводзілася вялікая кампанія па аснашчэнні прыборамі ўліку жыллёвага фонду і ўсіх суб'ектаў гаспадарання, незалежна ад форм уласнасці. "*На гэта выдзяляліся дастатковыя сродкі, ствараліся спецыяльныя арганізацыі і вытворчасці*, — казала спадарыня Астроўская. — *Разам з тым, як паказалі праверкі Дэпартамента па энергаэфектыўнасці, тэмпы гэтай работы, якая раней праводзілася паспяхова, пачалі зніжацца".*

З моманту "растлумачальнай працы" прайшло два гады... Тамсям лічыльнікі ўстанавілі, пераважна ў новых дамах. Але такіх абсалютная меншасць: у тым жа Барысаве толькі пара-тройка шматкватэрных дамоў... Дык, можа, уладальнікі кватэр якраз у гэтых дамах адчулі на сабе "цеплазберагальную эканомію"? Ды не, як і раней, плацяжы за ацяпленне складаюць ледзь не палову агульнай сумы, якая пазначана ў "жыроўках" кватэраўладальнікаў.

## «Цеплавая жыроўка»

Перада мною "цеплавая жыроўка" Аляксандра Дражэнкі. Паперка мае назву "Паведамленне аб налічэнні кватрплаты за красавік 2012 года". Зразумела, уся ўвага на дзве графы — "Ацяпленне кватэры" і "Ацяпленне месцаў агульнага карыстання". Тарыф за гігакалорыю адзін і той жа — 53.773 рублі. Але цікава іншае: колькасць цяпла, скарыстанага на абагрэў месцаў агульнага карыстання, яўна перавышае колькасць цяпла на абагрэў кватэры. На кватэру затрачана 0,0095 Гкал, а на пад'езд і іншае — 0,1581 Гкал. Адпаведна і сума да выплаты: 5135 рублёў за уласную кватэру і 8502 рублі за ацяпленне месцаў агульнага карыстання. Але гэта ніяк не стыкуецца з **п.40 Інструкцыі №13 ад 24 мая 2004 года Мінжылкамунгаса,** з якога вынікае, што расходы цеплавой энергіі на абагрэў месцаў агульнага карыстання ў шматкватэрным доме не павінны перавышаць 30 працэнтаў агульнага расходу цяпла, што ідзе на абагрэў дома. Тут жа ўсе 50 працэнтаў... Атрымліваецца, што (у выніку так званага "прапарцыянальнага" раздзялення агульнаспажыванага цяпла) за абагрэў пад'езда выплата большая, чым за абагрэў двухпакаёвай кватэры. Нонсенс! Але факт...

— І чым такое абумоўлена? — пытаюся ў Аляксандра Васільевіча.

— Я і сам спрабаваў высветліць у бухгалтаркі нашага каапepатыва спадарыні Н.Стукан, чаму так атрымліваецца, але ўсе мае спробы яна назвала "прыколам"... Маўляў, чапляецца чалавек да капеечнай сумы... Але ж справа не ў грошах, а ў прынцыпе, бо які тады рэзон устанаўліваць індывідуальныя прыборы ўліку цеплавой энергіі, які рэзон уцяпляць вокны і дзверы, калі ўсё роўна выплаты за абагрэў пад'езда, паддашка і ўсяго астатняга перавышаюць выплаты за абагрэў уласнай кватэры?.. І потым, хацелася б ведаць: якой такой методыкай карыстаецца спецыяліст, разлічваючы колькасць спажываемага цяпла і налічваючы жыхарам дома сумы па прынцыпе "50х50"? Аднойчы бухгалтар заявіла, што методыку яна скарыстоўвае з інтэрнэт-сеціва... Але ж гэта, даруйце, смешна: павінен быць нейкі агульнадзяржаўны механізм, прыняты хоць бы мясцовай уладай. Куды ні стукаўся, уключаючы Барысаўскі райвыканкам, так уцямнага адказу і ні атрымаў... Хтосьці ж з "вертыкалі" за гэтыя пытанні адказвае...

І сапраўды — хто?.. Пакуль зразумела толькі адно: людзі не паварушацца з установкай лічыльнікаў цяпла да той пары, пакуль не адчуюць сапраўдную выгаду ад іх.

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

**Да ведама:** *пакватэрны ўлік цеплавой энергіі пачаўся ў Беларусі на пачатку 90-х гадоў. Гэтаксама, як і ў нашых суседзяў — палякаў, літоўцаў, чэхаў, славакаў... Што маем праз 20 гадоў? На сённяшні дзень у краіне разлічваюцца па індывідуальных прыборах недзе каля 25—30 тысяч кватэр. А ў Польшчы — мільёны абанентаў, і ў Літве, і ў Чэхіі, і ў Балгарыі... Пра краіны Заходняй Еўропы і казаць не варта — мы адсталі ад Захаду на 10—20 гадоў. А пачыналі ж пакватэрны ўлік цяпла ў адзін час з палякамі... То чаму ў нас ніяк не прыжывуцца тыя цеплалічыльнікі, а толькі з году ў год растуць тарыфы на цеплавую энергію? Чарговае такое павышэнне (на 10%) адбылося толькі што...*

РЭЗАНАНС

# Сям'і Васкабовічаў прапанавалі тры кватэры

*Сям'і Васкабовічаў замест дома, які стаіць побач з будаўніцтвам веткі Мінскага метрапалітэна, гарадскія ўлады прапанавалі тры кватэры.*

Нагадаем, што супрацьстаянне ўладальніка дома па вуліцы 1-я Уманская Аляксея Васкабовіча з гарадскімі ўладамі цягнецца ўжо даўно. Увесь гэты час ён дамагаўся праз суд адпаведнай кампенсацыі за свой прыватны дом, які хацелі знесці быццам бы ў сувязі з будаўніцтвам метро. Тыя варыянты, што прапаноўвалі улады, Васкабовіча не задавальнялі. Замест цаглянага дома павышанай камфортнасці плошчай 210 квадратных метраў, з якога хацелі выселіць, ім вызначылі адну пяціпакаёўку (172 кв.м) на тры сям'і. Але, у рэшце рэшт, суды і гарадскія ўлады пайшлі насустрач сям'і...

— Нам прапанавалі замест дома тры кватэры, — распавядае **Аляксей Васкабовіч**. — Новую двухпакаёвую, новую трохпакаёвую і чатырохпакаёвую з другаснага жылога фонду. Праўда, у апошняй кухня ўсяго 5,6 кв.м, а таму я выказаў пісьмовую нязгоду з такім варыянтам. У адміністрацыі Маскоўскага раёна абяцалі разгледзець пытанне...

**Алесь СІВЫ.**

АДУКАЦЫЯ

# Палітолагаў у Беларусі хоць гаць гаці, а працадаўцы шукаюць інжынераў

Як паведаміў на нядаўняй прэс-канферэнцыі міністр адукацыі **Сяргей Маскевіч,** у 2012 годзе дадаткова скарочаны прыём на навучанне за кошт сродкаў бюджэту:

**на юрыдычныя спецыяльнасці** на 15% (або на 175 бюджэтных месцаў), **эканамічныя спецыяльнасці** — на 20% (або на 518 бюджэтных месцаў), **гуманітарныя спецыяльнасці** — на 4% (ці на 54 бюджэтныя месцы), **паліталогію** — у 2 разы.

Каб зразумець, якія гэта лічбы, прывядзём адзін прыклад. У мінулым годзе на юрыдычны факультэт БДУ на бюджэтную форму навучання было прынята 150 першакурснікаў. Але ж юрыстаў у Мінску рыхтуюць не толькі ў БДУ, але і ў Акадэміі кіравання, БДЭУ, прыватным Інстытуце правазнаўства. Акрамя бюджэтных аддзяленняў ёсць і платныя, і звычайна наборы на іх аднолькавыя.

У той жа час, як паведаміў міністр, у 2 разы павялічаны прыём на нана-спецыяльнасці, на 11% — на спецыяльнасці, звязаныя з ІТ-тэхналогіямі. Таксама павялічыцца набор на тэхнічныя, тэхналагічныя, архітэктурныя спецыяльнасці, на прыродазнаўчыя навукі. Адным словам, на тыя спецыяльнасці, попыт на якія назіраецца на рынку працы.

Аднак дырэктар кансалтынгавай кампаніі "Квадрат" Святлана Карасцялёва ў адным са сваіх інтэрв'ю, даючы парады абітурыентам, на чым спыніць выбар пры паступленні, адзначала, што сёння адна з самых запатрабаваных прафесій на рынку працы — інжынер.

— *Карыстаюцца попытам у працадаўцаў як інжынеры ў чыстым выглядзе, так і інжынеры-менеджары, таму што яны могуць прадаваць абсталяванне, у якім разбіраюцца,* — адзначыла Святлана Карасцялёва. — *І гэтая прафесія сёння да таго ж высокааплатная. У бліжэйшыя гады попыт на яе будзе толькі расці.*

*Справа ў тым, што ў 1990—2000-х гэтая прафесія лічылася непрэстыжнай, інжынеры мала зараблялі, конкурсы ў ВНУ па дадзенай спецыяльнасці былі невялікія, наборы скарачалі. Часта вучыцца ішлі тыя, хто проста хацеў атрымаць дыплом аб вышэйшай адукацыі і пасля заканчэння ВНУ ні дня не працаваў па спецыяльнасці. Сёння на прадпрыемствах часцяком працуюць інжынеры пенсіённага ўзросту, вельмі мала спецыялістаў сярэдніх гадоў. На рынку працы яшчэ доўга будзе назірацца дэфіцыт інжынерных кадраў.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

## Менш выпускнікоў і менш студэнтаў

У 2012 годзе колькасць выпускнікоў агульнаадукацыйных школ складзе 65,5 тысячы чалавек, што на 10 тысяч менш, чым у мінулым годзе. А ў ВНУ на ўсе формы навучання прымуць больш за 91 тысячу першакурснікаў. І гэта таксама менш, чым у мінулым годзе, — на 14 тысяч чалавек. На дзённай форме навучання змогуць вучыцца 51,77 тысячы першакурснікаў, што на 5400 чалавек менш, чым летась. На завочнай — 39,42 тысячы (мінус 8 з паловай тысяч студэнтаў ад мінулагодняга паказчыка). У дзяржаўных універсітэтах будзе навучацца 77,3 тысячы першакурснікаў.

Прыём студэнтаў у Беларусі ажыццяўляюць 54 вышэйшыя навучальныя ўстановы: 45 дзяржаўнай формы ўласнасці, 9 — прыватнай.

ДА ЎВАГІ!

# «Белпошта» не рэкамендуе адпраўляць дарагую тэхніку ў Нігерыю

Бо можна трапіць на вуду махляроў. Яны рассылаюць лісты з просьбай выслаць у Нігерыю дарагую тэхніку, гарантуючы яе аплату. Затым па электроннай пошце адпраўніку высылаецца фальшывая банкаўская выпіска аб аплаце, атрымаўшы якую адпраўшчык робіць адпраўку паскоранай поштай у Нігерыю. Адсутнасць плацяжу на сваім рахунку адпраўшчык выяўляе, калі адпраўленне ўжо дастаўлена ў Нігерыю.

*"РУП "Белпошта" настойліва рэкамендуе сваім кліентам уважліва ставіцца да пытанняў адпраўкі каштоўных пасылак у Нігерыю: па магчымасці адпраўляць тавары толькі правераным і надзейным атрымальнікам альбо ўстрымацца ад адправак да атрымання фактычнай аплаты таварных укладанняў".*

ГУЧНЫЯ СПРАВЫ

# Банкіра Кацарэнку пакінулі ў СІЗА да восені

*Тэрмін расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да былога кіраўніка "Тэхнабанка" Уладзіслава Кацарэнкі падоўжаны да 9 верасня.*

Меру стрымання банкіру не змянілі — ён па-ранейшаму знаходзіцца ў СІЗА. Ягоная маёмасць пад арыштам.

Як паведамляе БелаПАН, былы старшыня назіральнага савета ААТ "Тэхнабанк" быў затрыманы 2 сакавіка. Па даных праваахоўных органаў, Кацарэнка аказваў кіраўнікам прыватных структур садзейнічанне пры ўхіленні ад падаткаў. Ён падаваў ім загадзя падробленыя дакументы, рэквізіты падкантрольных ім лжэпрадпрымальніцкіх структур. Агульная сума шкоды, якая прычынена такімі дзеяннямі бюджэту Беларусі, ацэньваецца больш як у 7 мільярдаў рублёў. Па даных следства, злачынная схема працавала больш за чатыры гады.

Пры гэтым следчыя не звязваюць злачынную дзейнасць Кацарэнкі з дзейнасцю "Тэхнабанка".

# Алігарх Віктар Шаўцоў пад хатнім арыштам?



*Ці выпусцілі з СІЗА КДБ старшыню савета дырэктараў ЗАТ "Белзамежбуд", кіраўніка назіральнага савета ЗАТ "Трастбанк" Віктара Шаўцова?*

Нагадаем, што ўплывовы бізнесмен Шаўцоў быў затрыманы восенню мінулага года. Яго абвінавацілі ў асабліва буйным крадзяжы — гаворка ідзе аб суме, якая перавышае 10 мільёнаў долараў. Да таго ж следства правярала дачыненне Шаўцова да здзяйснення супрацьпраўных дзеянняў пры падрыхтоўцы і рэалізацыі эканамічных праектаў у Венесуэле.

"*Шкоду нанёс дзяржаве? Двухразовы, трохразовы памер — грошы на стол — і пайшоў!* — так напрыканцы мінулага года пракаментаваў справу Шаўцова А.Лукашэнка. — *Не заплаціць грошы — будзе сядзець у турме".*

Аднак не так даўно рэхам праляцела людская пагалоска: маўляў, Шаўцова выпусцілі з СІЗА КДБ — па хадайніцтве праваслаўнай царквы, якой ён шмат ахвяраваў. І што цяпер бізнесмен нібыта знаходзіцца пад хатнім арыштам.

"Народная Воля" паспрабавала праверыць гэтую інфармацыю ў КДБ. Вось што сказаў начальнік Цэнтра іфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ **Аляксандр Антановіч** наконт знаходжання Шаўцова ў СІЗА КДБ: *"На жаль, я не магу вам даць гэтую інфармацыю, таму што мы не даём такую інфармацыю".*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

## Михаил ПАСТУХОВ



# Нужна ли Беларуси президентская власть?

*(Окончание. Начало в №№91—92.)*

## Главой государства может быть председатель парламента

Возложение функций главы государства на председателя парламента даст колоссальную экономию государственных средств за счет ликвидации органов и прочих структур, которые были образованы при А.Лукашенко. Вместо десятков тысяч сотрудников, обслуживающих интересы и безопасность одного человека, при новом председателе парламента будет работать небольшая канцелярия со штатом 5—7 человек.

Упразднение института президентской власти вернет белорусскому обществу спокойствие и безопасность, защитит граждан от произвола людей из "команды президента". Диктатура не может повториться.

В деятельности государственного аппарата восстановится принцип разделения властей на законодательную, исполнительную и судебную, реализуется принцип верховенства закона, будет обеспечиваться уважение к правам и свободам граждан, а также возможность их защиты на национальном и международном уровнях.

Для председателя (спикера) парламента выполнение президентских обязанностей станет дополнительной нагрузкой по отношению к его непосредственным обязанностям. Однако эта нагрузка не будет значительной и обременительной. В то же время передача председателю парламента некоторых функций главы государства не может привести к узурпации власти со стороны этого лица.

*Во-первых,* председатель парламента будет заниматься преимущественно организационной работой в парламенте и лишь время от времени осуществлять функции главы государства, например, награждать государственными наградами, представлять государство в отношениях с другими государствами, подписывать международные договоры, законы, принимать верительные и отзывные грамоты дипломатических представителей иностранных государств.

Отметим, что в Беларуси (со дня провозглашения государственного суверенитета и до вступления в должность первого президента) имеется опыт совмещения должностей председателя парламента и главы государства. В частности, эти должности совмещали *(и небезуспешно. —* **Авт.**) С.С.Шушкевич и М.И.Гриб.

Следует также иметь в виду, что некоторые полномочия главы государства, требующие коллегиального обсуждения, могут осуществляться не лично председателем, а президиумом парламента. Среди таких полномочий: решение вопросов о приеме в гражданство Республики Беларусь, его прекращении и предоставлении убежища; награждение государственными наградами; осуществление помилования осужденных; назначение и отзыв дипломатических представителей Республики Беларусь в иностранных государствах и при международных организациях; введение чрезвычайного положения; приостановление забастовки; введение на территории Республики Беларусь военного положения; объявление полной или частичной мобилизации.

*Во-вторых,* председатель парламента по своему статусу будет выступать как первый среди равных: как депутат, как член президиума, как лицо, которому доверено исполнение некоторых обязанностей главы государства. Такое положение обеспечит доступность этого лица, учет им мнения других лиц при решении вопросов своей компетенции, контроль над его деятельностью.

*В-третьих,* в случае недовольства работой председателя парламента, совершения им противоправных или аморальных поступков, изменения партийной расстановки сил в парламенте, других причин (например, длительной болезни) депутаты парламента могут без лишних проволочек переизбрать председателя и, соответственно, — главу государства.

С большой долей вероятности можно утверждать, что выборы нового парламента повлекут за собой смену председателя парламента, а значит, и главы государства. Эту должность будет занимать, как правило, убеленный сединой, опытный и уважаемый депутат, работающий в интересах и государства, и общества.

Вариант упразднения института президентской власти имеет и слабые места. Основной недостаток состоит в том, что выполнение обязанностей главы государства станет дополнительной нагрузкой для председателя парламента. Другим недостатком является то, что утрата должности председателя парламента будет означать прекращение полномочий главы государства. На какое-то время — до выборов нового председателя — государство останется без главы государства.

Еще один недостаток предлагаемого варианта — неответственность председателя парламента (он же — глава государства) перед народом. Он будет нести персональную ответственность перед парламентом и перед избирателями, которые за него голосовали.

Можно говорить и об иных недостатках совмещения должностей председателя парламента и главы государства. Например, наш "глава государства" будет чувствовать себя несколько ущербно в отношениях с президентами других стран. Правда, эту ущербность можно легко исправить, дописав к должности председателя парламента два юридически значимых слова — "Глава государства".

Но все недостатки предлагаемого решения перекрываются его очевидными плюсами. И главный из них тот, что институт президентской власти перестанет быть источником и предпосылкой узурпации власти. Вместе с должностью президента ликвидируется и весь обслуживающий его аппарат, в том числе военизированные подразделения. Отменяется "президентское право" вместе с указами, декретами, директивами и распоряжениями.

## Как упразднить президентскую власть?

С юридической точки зрения решить вопрос о ликвидации должности президента просто: в Конституции 1994 года после слов "Глава 4. "Президент Республики Беларусь" надо сделать запись: "Исключена". И все. С президентской властью будет покончено.

Как надолго? Во всяком случае, пока в Беларуси не установятся традиции демократических форм правления. Возможно, через какое-то время придется восстановить должность президента, как в других европейских странах.

Но это будет потом, а сейчас... было бы неплохо отдохнуть от президентской власти, освободившись от удушливых тисков диктатуры.

Для закрепления полномочий главы государства, передаваемых для исполнения председателю парламента, предлагается статью 86 Конституции дополнить новой нормой: *"Председатель Верховного Совета (Сейма) по должности является Главой государства"*, а также включить в Конституцию статью 87-1 следующего содержания:

*"В качестве Главы государства Председатель Верховного Совета (Сейма):*

*1) представляет Республику Беларусь в отношениях с другими странами и международными организациями;*

*2) ведет переговоры и подписывает международные договоры;*

*3) принимает верительные и отзывные грамоты аккредитованных в Республике Беларусь дипломатических представителей иностранных государств;*

*4) предлагает для избрания кандидатуру Премьер-министра, Генерального прокурора, Председателя Национального банка, Уполномоченного по правам человека, Председателя Службы национальной безопасности, командующего Вооруженными Силами Республики Беларусь;*

*5) подписывает законы.*

*Указанные полномочия Председатель Верховного Совета (Сейма) осуществляет лично. В случае невозможности исполнения Председателем Верховного Совета (Сейма) обязанностей Главы государства его полномочия переходят к Первому заместителю Председателя Верховного Совета (Сейма)".*

Часть полномочий главы государства следует возложить на президиум Верховного Совета (Сейма). Для этого предлагается включить в Конституцию статью 89-1:

*"Президиум Верховного Совета (Сейма):*

*1) принимает решения о награждении государственными наградами, присвоении почетных званий Республики Беларусь;*

*2) решает вопросы о приеме в гражданство Республики Беларусь, его прекращении и предоставлении убежища;*

*3) принимает решения о помиловании осужденных;*

*4) принимает решения о назначении и отзыве дипломатических представителей Республики Беларусь в иностранных государствах и при международных организациях;*

*5) обсуждает кандидатуры на должности судей Конституционного суда, Верховного суда, Высшего Хозяйственного суда и иных высших судов;*

*6) обсуждает кандидатуры на должности Председателя и членов Правления Национального банка, Председателя и членов Совета Контрольной палаты, Генерального прокурора, Председателя Службы национальной безопасности, Уполномоченного по правам человека, Командующего Вооруженными Силами;*

*7) принимает решение о введении на территории Республики Беларусь или в отдельных ее местностях чрезвычайного положения с внесением в трехдневный срок принятого решения на утверждение Верховного Совета (Сейма);*

*8) принимает решение о приостановлении решения местного представительного органа в случае несоответствии его закону с внесением в трехдневный срок соответствующего обращения в Конституционный суд;*

*9) принимает решение о введении на территории Республики Беларусь военного положения в случае военной угрозы или нападения с внесением в трехдневный срок принятого решения на утверждение Верховного Совета (Сейма);*

*10) осуществляет иные полномочия, возложенные на него Конституцией и законами".*

В результате предложенных конституционных преобразований Республика Беларусь станет государством с чисто парламентской формой правления, где функции главы государства будут осуществлять совместно председатель и президиум парламента.

